



# Рэгіянальная газета. Rh.by




тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

9 снежня 2016 года №50 (1128)




## Расклад руху цягнікоў ад 11 снежня

старонка 18

## Якія прафесіі прапаноўвалі на кірмашы вакансій у Смаргоні

старонка 2

## На Смаргоншчыне маці пырнула нажом 14-гадовага сына

старонка 4

## Якія прафесіі застануцца ў бліжэйшай будучыні

старонка 5

## Ідзе судовае разбіральніцтва па справе Вікі Папчэні

старонка 17

# "Калі павышаецца пенсія, у нас не змаўкае тэлефон"



Дыспетчар арганізацыі, якая выдае пенсіі, УП "Кур'ер" Віктар Аўласевіч: "Калі павышаецца пенсія, у нас не змаўкае тэлефон".

Пра тое, як размяркоўвае свой бюджэт на заслужаным адпачынку адна з пенсіянерак рэгіёна, чытайце на старонцы 2-й.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Якія прафесіі прапаноўвалі на кірмашы вакансій у Смаргоні

СМАРГОНЬ

Якія прафесіі сёння папулярныя на Смаргоншчыне? Якія незапатрабаваныя? Што прапануюць працадаўцы? Каб жыхары Смаргоні маглі атрымаць адказы на гэтыя пытанні, у горадзе штогод ладзіцца кірмаш вакансій.

Сёлета, па словах начальніка дзяржаўнай службы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Смаргонскага райвыканкама **Людмілы Рамановіч**, працу прапаноўвалі прадстаўнікі вытворчых прадпрыемстваў, гандлю, ЖКГ, лясгаса.

Сярод ахвотных на гэты раз было шмат людзей пенсійнага ўзросту.

### Грузчыкам ці дворнікам таксама нялёгка

Жыхары цікавіліся прапановамі, запісваліся на курсы, якія прапануе цэнтр занятасці. На базе прафесійна-тэхнічнага ліцэя можна атрымаць спецыяльнасці прадаўца, муляра, зваршчыка, тынкоўшчыка-маляра. Плануюць адкрыць курсы цырульнікаў, карыстальнікаў ЭВМ з веданнем бухгалтэрыі 1С.

На выязных курсах у Гродне і вобласці навучаюць на кіроўцаў пагрузчыка, вальшчыкаў лесу.

– Цяпер вельмі цяжка знайсці працу некваліфікаванаму спецыялісту, – падзяліцца сваімі назіраннямі Людміла Рамановіч. Абавязкова павінна быць хаця б пасведчанне пра тое, што чалавек скончыў курсы па абранай спецыяльнасці. Грузчыкам або дворнікам цяпер уладкавацца куды цяжэй, чым раней.

Прадаўцы, па словах Людмілы Рамановіч, запатрабаваныя ўвесь час. У горадзе шмат магазінаў. Два вялікія гандлёвыя аб'екты яшчэ будуюцца.

У сувязі з будаўніцтвам атамнай электрастанцыі ў Астраўцы патрэбныя цесляры-бетоншчыкі. Сёлета былі вакансіі лесавода, кіроўцы, апаратара свінагадоўчага комплексу, апаратара машыннага даення, ветэрынарнага доктара, эканаміста.

У раённую бальніцу патрабаваліся санітаркі, медсёстры, фельчары, дактары-спецыялісты.

Менш запатрабаваныя юрысты. Укамплектаваныя таксама галіны культуры і адукацыі. На працягу года часам з'яўляліся вакансіі настаўнікаў, выхавальнікаў і памочнікаў выхавальнікаў, але сюды хутка знаходзіліся ахвотныя.

Колькасць зарэгістраваных з вышэйшай адукацыяй у аддзеле занятасці невялікая. Іх каля 6%. Часта гэта людзі, якія даўно скончылі ВНУ, але па нейкіх прычынах доўгі час не працавалі.

На кірмашы былі прадстаўнікі прадпрыемства "Карункі". Тут шыюць жаночую бялізну. Прадпрыемства будзе пашырацца. На працу запрашалі жанчын-швачак. Іх трэба 15. Абяцалі сярэдні заробак 550 рублёў.

### Як атрымаць субсідыю на адкрыццё ўласнай справы

Як расказала Людміла Рамановіч, некаторыя гараджане праходзяць курсы індывідуальных прадпрымальнікаў, пішуць бізнес-планы, звяртаюцца ў аддзел занятасці і атрымліваюць субсідыі на адкрыццё сваёй справы.

Субсідыі выдавалі на розныя віды дзейнасці. Гэта будаўніцтва, арганізацыя святаў, паслугі цырульніка, чыстка дываноў і мэблі. Звярталіся па субсідыі і рамеснікі. Цяпер яны маюць невялікія ўласныя прадпрыемствы, дзе робяць мэблю, каваныя рэчы.

Грашовую дапамогу аддзел занятасці выдзяляе і тады, калі сям'я пераязджае жыць і працаваць з горада ў вёску. Тады сям'я ў сельскай мясцовасці атрымлівае жыллё.

На якіх прадпрыемствах у Смаргоні самыя высокія заробкі? На "Белаграрэрмінале". Гэта прадпрыемства будуе ў Смаргоні завод па вытворчасці алею з насення рапсу. Да канца 2017 года завод павінны запусціць. На кірмашы прадстаўнікі прадпрыемства правялі прэзентацыю дзейнасці будучага завода. Паабяцалі, што з яго адкрыццём з'явіцца каля 100 працоўных месцаў.

Па словах начальніка аддзела занятасці, да 900 рублёў атрымліваюць на прадпрыемстве "Кранаспан".

У аддзеле занятасці заўважылі, што калі гады тры-чатыры таму ў беспрацоўя быў "жаночы твар", то цяпер ён мужчынскі. Сацыяльны партрэт беспрацоўнага наступны. Гэта мужчына прыкладна 42 гадоў, які мае агульную сярэднюю адукацыю. Ён доўга не працаваў і не атрымліваў дапамогу па беспрацоўі.

Цяжка ўладкавацца на працу мужчынам, якія доўга працавалі за межамі Беларусі. Напрыклад, на будоўлі ў Расіі. Часта такая праца неафіцыйная, запісаў у працоўнай кніжцы няма.

Па словах Людмілы Рамановіч, на 1 лістапада 2016 года ўзровень беспрацоўя ў Смаргоні – 0,9%, каэфіцыент напружання на рынку працы – 0,8 чалавека на месца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ТЭМА НУМАРА

## Як гераіня размяркоўвае дзве пенсіі (533 рублі)




# "Аплаціла крэдыты і камуналку – і застаўся фігвам"

## Як пражыць на пенсію ў рэгіёне

– Хіба некаму цікава будзе ведаць, як я грошы трачу? –

здзіўляецца пенсіянерка Ганна, якая жыве ў адным з гарадоў нашага рэгіёна. – Раскажу, але прозвішча не пішыце – не хачу, каб людзі думалі, што я скарджуся.

Спадарыня Ганна 33 гады адпрацавала ў школе настаўніцай. Цяпер яна атрымлівае пенсію 308 рублёў. У яе мужа стаж крыху меншы, цягам жыцця ён змяніў некалькі прафесій. Атрымлівае 225 рублёў пенсіі. Разам на дваіх атрымліваецца 533 рублі ў месяц. Сын і дачка жывуць асобна.

– Пенсіі атрымалі, заплацілі за крэдыты 360 рублёў, 77 рублёў за камуналку, рублёў 30-40 ідзе на тое, каб аддаць пазыкі сябрам-знаёмым за мінулыя месяцы, і застаўся фігвам. Вось і ўвесь мой бюджэт, – кажа пенсіянерка.

### Ніколі не жыла так жахліва і па-жабрацку, як на пенсіі

Сын спадарыні Ганны ўзяў два крэдыты і нечакана страціў працу. Знайсці новую на месцы не атрымалася, таму падаўся на заробкі ў Расію.

– Ужо два разы вярта́ўся ні з чым – падманвалі. Ён працаваў, а грошы не атрымліваў, – распавядае жанчына. – Проста як у рабства патрапіў! Цяпер паехаў у трэці раз, абяцаюць заплаціць – якраз бы хапіла, каб за два месяцы крэдыт пагасіць. Але ж хто ведае, як яно будзе... Дапамагаем яму, як можам.

Пасля абавязковых плацяжоў на руках у спадарыні Ганны застаецца каля 55 рублёў. На іх яна купляе прадукты – крупы, макарону, алей, муку, трохі мяса і кілбасаў. Закупляецца на рынку – так атрымліваецца танней.

– Гэтых прадуктаў хапае толькі на два тыдні, – кажа пенсіянерка. – Каб дажыць да наступнай пенсіі, даводзіцца пазычаць.

Сынаў крэдыт давядзецца выплачваць да лета 2017 года. Жанчына кажа: каб не крэдыт, удваіх з дзедам далі б рады пражыць на дзве пенсіі.

– Але нават у гэтым выпадку нельга казаць пра дастойную старасць, – заўважае яна. – Жылі б сціпла, без раскошы, але і без пазыкаў. З-за крэдытаў жыццё стала невыносным. Ніколі не жыла так жахліва і па-жабрацку, як на пенсіі.

### Заўсёды ёсць тыя, каму горш

Калі спадарыня Ганна і яе муж працавалі, то грошай хапала і на сябе, і каб дапамагаць дзецям.

– Раней і ўнукам сёетое атрымлівалася купляць, дапамагаць дачцэ, – прыгадвае жанчына. – А цяпер бывае, што калі дачка напрыканцы месяца да нас заедзе і пабачыць, як у нас з прадуктамі, то сама ідзе ў краму і нам нешта купляе. Хаця ў самой двое дзяцей.

Пратрымацца спадарыні Ганне дапамагае агарод – каля дома яны з мужам на двух сотках вырошчваюць агуркі, буракі, кабачкі. Робяць закаткі, якіх хапае і самім, і дзецям. Як заўважае пенсіянерка, такі "падножны корм" вельмі дапамагае.

– Думаю часам, што мы жывём так, што горш няма куды. А пасля бачу, у якія сітуацыі трапляюць знаёмыя і суседзі, і разумею – ёсць куды горш,

– дзеліцца назіраннямі пенсіянерка. – У знаёмай, якая таксама на пенсіі, дачка пачала піць. Гэта яшчэ больш страшна.

### "Мару адпачыць на Нарачы"

На пытанне аб тым, калі апошні раз атрымлівалася нешта адкласці, спадарыня Ганна разводзіць рукамі:

– Пра што вы кажаце! Такога нават не памятаю. Адно добра, што ў такім узросце нам з дзедам ужо не да абновак, адзення купляць не трэба. Часам туфлі якія спатрэбяцца, але ж гэта адна пара і на шмат гадоў. А так якая ж тут радасць ад жыцця: пенсію яшчэ не атрымаў, а ўжо ведаеш, што праз пару дзён яе не будзе.

Аб тым, што грошы можна траціць на сябе, пенсіянерка ўжо і забылася. Але калі б раптам з'явіліся вольныя грошы, то спадарыня Ганна ведае, на што іх патраціла б.

– Паехала б адпачываць, – кажа ўпэўнена. – Калі працавала, то атрымлівалася ездзіць у санаторый, а на пенсіі – ужо не. Але цяпер пра гэта нават марыць не даводзіцца.

Часам чытаю аб тым, як пенсіянеры ездзяць па замежжах. Не ведаю, якім цудам гэта атрымліваецца. Я была б шчаслівая, каб атрымалася паехаць на Нарач.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Прызначаны новы намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама па сацыяльных пытаннях і ідэалогіі

МАЛАДЗЕЧНА

Ім стала **Алеся Лукоўская**, якая да гэтага ўзначальвала аддзел выканкама па ідэалогіі, культуры і справах моладзі.

Нагадаем, што вакансія намесніка старшыні райвыканкама адкрылася тады, калі яго былая старшыня **Людміла Кананові**ч была абраная ў дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў.

Выконвае абавязкі начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і справах моладзі **Алена Іванько.**

Алесі Лукоўскай 34 гады. Нарадзілася ў Маладзечанскім раёне ў 1982 годзе.

У 2004 годзе скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт.

Ад 2004 да 2006 года працавала настаўніцай у сярэдняй школе №11 Маладзечна, ад 2006 да 2007 – у Маладзечанскай агульнаадукацыйнай санаторнай школе-інтэрнаце №1 для дзяцей, хворых на сколіёз.

У 2007 годзе Алеся Лукоўская прыйшла ў Маладзечанскі раённы камітэт ГА "БРСМ" на пасаду галоўнага спецыяліста. У 2008 годзе стала другім сакратаром у арганізацыі, у 2009 годзе – першым сакратаром БРСМ і ўзначальвала яго да 2013 года.

Ад 2 ліпеня 2013 года да 11 студзеня 2016 года Алеся Аляксандраўна займала пасаду намесніка начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Шафаловіч.**

Наталля ТУР.

## ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.11 | | 7.12 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 32 600 | 3,26 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 145 000 | 14,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 18 500 | 1,85 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 64 900 | 6,49 | 64 900 | 6,49 |
| Капуста, 1 кг | 2 900 | 0,29 | 2 900 | 0,29 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Лімоны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 900 | 2,99 |
| Мандарыны, 1 кг | 28 500 | 2,85 | 27 000 | 2,70 |
| Гранаты, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 28 500 | 2,85 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 26 900 | 2,69 |
| Агуркі, 1 кг | 37 500 | 3,75 | 34 900 | 3,49 |
| Перац, 1 кг | 44 900 | 4,49 | 44 900 | 4,49 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Вінаград, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 29 500 | 2,95 |
| Бананы, 1 кг | 21 500 | 2,15 | 19 500 | 1,95 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 900 | 1,49 | 14 900 | 1,49 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 4 000 | 0,40 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |



## Разглядаюць 20 пляцовак для новых дамоў

МАЛАДЗЕЧНА

Яны могуць з'явіцца ў 10-м мікраараёне ў Маладзечне, у Радашкавічах. Ушчыльненне чакае вуліцы Будаўнікоў, Скарыны, Міру.

– Аднак гэта пакуль у планах, – адзначыў намеснік кіраўніка Маладзечанскага райвыканкама **Вадзім Цар**. – Дакладная праграма забудовы будзе зацверджаная толькі ў сакавіку наступнага года. Тады і можна будзе гаварыць, на якой пляцоўцы з'явяцца новыя дамы.

Галіна СУДНІКОВІЧ.



## КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ

| | 1.12 | 8.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9795 | 1,9789 |
| Еўра | 2,1033 | 2,1220 |
| Злоты, 10 | 4,7463 | 4,7826 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0343 | 3,0954 |
| Грыўня, 100 | 7,7445 | 7,6038 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 30.11 і 7.12** | | |
| Еўра | 2.0800/2.1020 | 2.0900/2.1250 |
| Долар ЗША | 1.9650/1.9800 | 1.9600/1.9800 |

## Міліцыя кантралюе продаж і выкарыстанне піратэхнікі

МАЛАДЗЕЧНА

**Супрацоўнікі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на трас-парце ад 1 снежня да 8 студзеня праводзяць прафілактычнае мерапрыемства для папярэджання і спынення незаконнага продажу і выкарыстання піратэхнічных сродкаў.**

З надыходам зімовых святаў людзі часта набываюць піратэхніку. Адны – для продажу, іншыя – для ўласнага выкарыстання.

Як правіла, пры неасцярожным абыходжанні з піратэхнічнымі сродкамі церпяць самі грамадзяне, можа пашкодзіцца іх маёмасць.

За пашкоджанне і знішчэнне маёмасці пры выкарыстанні піратэхнікі прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.

За наўмыснае знішчэнне і пашкоджанне маёмасці вінаватыя заплацяць штраф 50 базавых велічынь.

Калі здарэнне прызнаюць дробным хуліганствам памеры штрафу будуць ад 2 да 30 базавых велічынь.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ,**
**інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ.**

## Шукаюць жыхара Вілейшчыны, пра якога родныя нічога не ведаюць ад верасня

ВІЛЕЙКА

Вілейскі РАУС адшуквае зніклага без вестак **Мікалая Ракецкага**. Гэта ўраджэнец Мінска, жыў у вёсцы Клоўсі Вілейскага раёна. Мужчыну споўнілася 60 год. Родныя нічога не ведаюць пра яго ад верасня 2016 года.

**Прыкметы** Мікалая Ракецкага: на выгляд каля 60 год, хударлявага целаскладу, рост каля 170 сантыметраў, сівыя сярэдні даўжыні валасы. Асаблівых прыкмет не мае.

Паважаныя грамадзяне, не заставайцеся абыякавымі! Калі вы што-небудзь ведаеце пра сапраўднае месцазнаходжанне Мікалая Ракецкага альбо бачылі яго не так даўно, паведамляйце па нумарах тэлефонаў: **8-029-5076686, 8-033-3143042** або **102.**


Фота забяспечанае аддзяленнем крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.

Мікалай Ракецкі.

**Паводле аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

## На Валожыншчыне машына збіла дарожнага рабочага

ВАЛОЖЫН

Каля паловы пятай вечара 1 снежня адбылося дарожна-транспартнае здарэнне на 73-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Гродна ў Валожынскім раёне. Неўстаноўлены кіроўца "Рэно" пры абгоне не ўпэўніўся ў бяспецы і сутыкнуўся з аўтамабілем БМВ-520, які ўжо абганяў яго.

Пасля чаго БМВ сутыкнуўся з аўтамабілем "Пежо-807", які рухаўся ў спадарожным накірунку. Далей БМВ выехаў на правую па ходу руху абочыну, дзе наехаў на 33-гадовага дарожнага рабочага, мінчаніна.

У выніку мужчыну шпіталізавалі з дыягназам: "пералом унутранай і вонкавай шчыкалатак, левай галёнкі". Па гэтым факце праводзіцца праверка.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Шукаюць кіроўцу, які наехаў на пешахода на дарозе Мінск-Маладзечна-Нарач

МАЛАДЗЕЧНА

23 кастрычніка а палове сёмай вечара кіроўца аўто "Фіят-Скуда" рухаўся па дарозе Мінск-Маладзечна-Нарач у накірунку Мінска з вёскі Крыніца.

Ён наехаў на пешахода, які знаходзіўся на праезнай частцы.

Калі вы былі сведкам альбо відавочцам здарэння, звярніцеся ў Маладзечанскі РАУС, які знаходзіцца ў Маладзечне па вуліцы *Тамары Дудко, 1-18*, альбо па тэлефонах: **(80176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102.**

**Дзяніс КАРАЛЬКЕВІЧ,**
**інспектар ДПС АДАІ Маладзечанскага РАУС,**
**лейтэнант міліцыі.**

# Маці пырнула нажом 14-гадовага сына

## Ён пачаў скардзіцца, што яна не займаецца дамашнімі справамі

СМАРГОНЬ

**Здарэнне адбылося 25 кастрычніка каля дзесяці раніцы ў вёсцы Стымуні Смаргонскага раёна.**


Фота horoshev.ru.

**Няпростыя сямейныя адносіны ледзь не прывялі да трагедыі. Ілюстрацыйны здымак.**

Падчас спрэчкі 49-гадовая маці пырнула нажом 14-гадовага сына ў спіну.

Канфлікт адбыўся з-за дамашніх спраў. Маці пачала абвінавачваць сына, што той не дапамагае па доме. Ён, што маці не гатуе есці, не прыбірае ў хаце і не даглядае за сваёй хворай сястрой.

### Наталіў голад віном

Падчас спрэчкі маці зазначыла, што на пліце стаіць каструля з супам, а ў халадзільніку ёсць кілбаса і хлеб, з якіх можна зрабіць бутэрброд.

Пасля непрацяглай спрэчкі маці пайшла на кухню і пачала рэзаць цыбулю.

Адкрыўшы халадзільнік, убачыла, што паўлітровы слоік з віном няпоўны. Выпіць мог толькі сын – больш не было каму, так разважала жанчына.

Як пасля расказаў хлопец, раніцай ён прачнуўся і захацеў паесці, у халадзільніку ўбачыў слоік. Там аказалася віно, дома нікога не было, таму ён і адпіў са слоіка.

### Не зразумеў, што маці ўдарыла нажом

Каб працягнуць выказваць прэтэнзіі, сын зайшоў да маці на кухню. Спрэчка ўспыхнула нанова, у дадатак хлопец ударыў маці два разы далонню па шчацэ і накіраваўся ў свой пакой.

Як сведчыць жанчына, яна пакрыўдзілася, што сын ударыў яе, а таксама скандаліў. Таму калі выходзіў з кухні, жанчына ўзяла нож і нанесла ім некалькі ўдараў. Як яна прызналася, забіваць не хацела.

Пасля ўдару сын закрычаў "ой" і накіраваўся ў бок пакоя. Паклаўшы нож на стол, жанчына пайшла за сынам: хлопец ляжаў на жываце, а з левага боку спіны сачылася кроў. Маці прысела на кукішкі і заплакала, прасіла прабачэння, а затым выклікала "хуткую".

Як узгадвае малады чалавек, ён адчуў боль у правым плячы, але не зразумеў, чым яго ўдарылі, пайшоў у пакой.

Адносна таго, што сын нанёс некалькі ўдараў у шчацэ, жанчына не мае прэтэнзій, па дапамогу не звярталася, цялесных пашкоджанняў у яе на твары не было.

### Не магла патлумачыць, як адбылося здарэнне

Доктар "хуткай дапамогі", якая прыехала на выклік, папрасіла растлумачыць, як адбылося здарэнне. Жанчына не магла гэтага зрабіць, на выгляд была нецвярозая.

Хлопцу апрацавалі раны, але яму патрэбная была аперацыя. З "хуткай" паехала і маці.

Доктар яшчэ раз пастаралася высветліць, як адбылося няшчасце, аднак не атрымала зразумелага адказу. Хлопец таксама нічога не растлумачыў.

### Чым даказвалі віну жанчыны

Акрамя чыстасардэчнага прызнання, ёсць яшчэ шэраг доказаў віны жанчыны. Абцяжарвальнымі абставінамі з'яўляецца тое, што яна была ў стане алкагольнага ап'янення.

Змякчае віну чыстасардэчнае прызнанне.

У адносінах да жанчыны была праведзеная наркалагічная экспертыза. Паводле заключэння камісіі дактароў, жанчына пакутуе на сіндром залежнасці ад алкаголю другой ступені, яе трэба прымусова лячыць ад алкагалізму.

**Паводле пракурора Смаргонскага раёна Андрэя КЛЫШЭВІЧА.**

## Як 50 рублёў разбурылі сяброўства дзвюх валожынак

ВАЛОЖЫН

Дзве жанчыны сябравалі шмат гадоў. Адна да адной хадзілі ў госці, маглі застацца пажыць пару дзён, давяралі сакрэты адна адной, ведалі, дзе што захоўваецца ў кватэры, пакуль аднойчы…

У адзін з пахмурных дзён лістапада дзве сяброўкі вырашылі правесці вечар за размовамі да з шклянкай сагравальных напояў.

У гэты ж вечар да гаспадыні дома завітаў знаёмы. Ён прыйшоў вярнуць ранейшы доўг ёй у памеры 50 рублёў.

Гаспадыня прыхавала гэтыя грошы ў слоік з гарбатай і вярнулася да сяброўкі працягваць вечар.

Чаму раптам сяброўка, калі гаспадыня пайшла спаць, вырашыла ўзяць гэтыя грошы, невядома. Але як толькі ў доме пагасла святло, сяброўка ўзяла грошы са слоіка і пайшла з кватэры.

Раніцай гаспадыня не знайшла ні грошай, ні сяброўкі. Выклікала міліцыю.

Цяпер жанчыне пагражае турэмнае зняволенне, а гаспадыня дома прызналася следчым:

– Ды не грошай мне шкада, і не за гэта прашу пакараць, а за парушанае сяброўства і за расчараванне ў блізкім чалавеку.

Гэту гісторыю "Рэгіянальнай газеце" расказала следчая Валожынскага РАСК **Юлія Селятыцкая.**

**Наталля ТУР.**

## Скраў патэльню, шаблю і медныя конаўкі: з'явіўся злачынца-антыквар

ВАЛОЖЫН

Старадаўнія рэчы з дома ў вёсцы Малое Запруддзе вынес невядомы злачынца.

Гаспадар паехаў па справах у сталіцу. У гэты час невядомы дастаў шыбу ў адным з вокнаў і залез у хату.

Зніклі медныя конаўкі, катлы, патэльня, шабля, дзве паляўнічыя стрэльбы, патранташ, муляж пісталета "Парабелум".

4 снежня Валожынскі Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж, здзейснены з пранікненнем у жыллё". Злачынцу пагражае да чатырох гадоў.

Супрацоўнікі Следчага камітэта просяць грамадзян, якія нешта ведаюць па гэтай справе, звярнуцца па тэлефонах: **8(01772) 56-6-20** або **8(01772) 55-1-31.**

Пра гэта распавёў старшы следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта **Аляксандр Шульга.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Вера Сямёнаўна ў шахматы гуляць не ўмее, затое з задавальненнем разгадвае сканворды. Фота Наталлі ТУР.

# Прыводжу ў клуб мужа-інваліда і гуляю ў шашкі сама

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанка Вера Жарыцкая чакае, пакуль яе сяброўкі па таварыстве інвалідаў закончаць першую партыю гульні ў шашкі.**

А пакуль перабірае фігуры на шахматнай дошцы і размаўляе са мной.

Сустрэліся мы на мінулым тыдні ў шахматна-шашачным клубе, дзе праводзіўся штогадовы турнір сярод інвалідаў. Па традыцыі ладзіць яго Маладзечанскае таварыства інвалідаў і фізкультурна-спартыўны клуб "Агеньчык".

Як пасля прызнаўся старшыня таварыства інвалідаў **Васіль Таркан**:

– Турнір – гэта яшчэ адна магчымасць нагадаць усім, што мы жывыя.

Сябры таварыства сустракаюцца ў шахматна-шашачным клубе рэгулярна, па два разы на тыдзень.

І гэта, бадай, адзінае месца сустрэчы, куды па выхадных прыходзіць каля 30 чалавек.

– Летам мы ездзілі ў падарожжа ў Адэскую вобласць. Але паехаць тады змаглі 20 чалавек, а сёння іх у нашай арганізацыі больш за 2000. Таму такія турніры ладзіцца, каб пазнаёміцца, пасябраваць.

Мая суразмоўца Вера Жарыцкая прыйшла ў клуб разам з мужам.

– Пакуль муж гуляе ў шахматы, чакаю сваёй чаргі, каб пагуляць у шашкі. У шахматы я гуляць так і не навучылася, – расказвае Вера Сямёнаўна. – А ў шашкі раней дома часта гулялі, сына вучылі. Цяпер сын ужо дарослы, таму каб не забывацца, прыводжу мужа і сама гуляю.

Вера Жарыцкая прызнаецца, што дома яна любіць разгадваць сканворды.

– І вельмі люблю картачную гульню "Тысяча". Шкада, што няма з кім гуляць.

Ці збіраецца таварыства ладзіць картачныя турніры, невядома. Але, магчыма, якраз пра гэту прапанову Веры Сямёнаўны сябры таварыства гутарылі падчас традыцыйнага "агеньчыка", які ладзіцца да Сусветнага дня інвалідаў.

Наталля ТУР.

# Далучыцца да дабрачыннай акцыі ў дзіцячай паліклініцы можа кожны

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета ў дзіцячай паліклініцы Маладзечна медработнікі ўпершыню зладзілі навагоднюю дабрачынную акцыю для дзяцей-інвалідаў.**

Ідэя аб правядзенні прыйшла ўчастковай медсястры паліклінікі **Наталлі Струкавай**:

– Калі гэта думка нарадзілася, я звярнулася да галоўнага доктара нашай паліклінікі **Іны Саўчык**. Яна самым непасрэдным чынам падтрымала мяне. Дала адрасы дзяцей, параіла звярнуцца ў мясцовыя газеты.

Потым прапанавалі медыцынскім работнікам паліклінікі здаць грошы на гэту акцыю, каб набыць падарункі да Новага года для дзяцей-інвалідаў горада. Па словах Наталлі, ніхто не адмовіўся. І да 1 снежня грошы ўжо былі амаль сабраныя.

Аднак навагоднее свята немагчымае без галоўных персанажаў – Дзеда Мароза і Снягурачкі. Іх ролю выканаюць маладзечанцы **Дзмітры Рудык** і **Вольга Жарская**.

– Неяк я прывёў дачку ў дзіцячую паліклініку і сустрэў Наталлю Струкаву – знаёмую ўчастковую медсястру, – расказаў Дзмітры. – Яна і прапанавала паўдзельнічаць у акцыі.

Канец снежня для Дзеда Мароза і Снягурачкі "гарачы" час: заўсёды шмат дзіцячых ранішнікаў і дарослых карпаратываў. Дзмітры і Вольга без ваганняў пагадзіліся на прапанову. Нам гэта толькі ў радасць, кажуць яны, стараемся ніколі не адмаўляцца ад добрых спраў.

Дабрачыннасць – ужо вядомы від дзейнасці для спевака Дзмітрыя Рудыка. Летась у снежні адбыўся яго дабрачынны канцэрт. Ды і досвед "працы" Дзедам Марозам, і неабходны "рэквізіт" ужо ёсць.

Падтрымлівае Дзмітрыя і Вольга. Дабрыню яшчэ ніхто не адмяняў, упэўненая яна. Новы год традыцыйна ўспрымаюць як час чараўніцтва. Гэта ж прыемна пабыць чараўнікамі.

– А можа, сапраўды адбудзецца цуд і камусьці з дзяцей стане лепш. Здараюцца ж выпадкі, – дзеліцца сваімі думкамі Снягурачка.

Акцыя будзе доўжыцца да 21 снежня. Падтрымаць добрую справу можа кожны ахвотны. Трэба толькі знайсці час і прыйсці ў дзіцячую паліклініку.

У кабінеце 111-а на першым паверсе стаіць спецыяльная скрыня, куды можна пакласці падарункі для дзяцей-інвалідаў. Гэта могуць быць цацкі, цукеркі, канцылярскія прылады, наборы для дзіцячай творчасці і іншыя, патрэбныя дзецям рэчы. Прыносіць падарункі можна ад 8:00 да 17:00 з панядзелка да пятніцы.

Па словах Наталлі Струкавай, неабыякавыя гараджане ўжо далучыліся да акцыі. У паліклініку нясуць фарбы, кніжкі, алоўкі, мяккія цацкі.

28 снежня Наталля разам з Дзедам Марозам і Снягурачкай наведаюць дзяцей-інвалідаў і павіншуюць іх з Новым годам.

Падарункаў, як вядома, многа не бывае. І ўсё ж, калі нейкія рэчы пасля віншавання застануцца, іх перададуць у дзіцячую бальніцу горада.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Якія прафесіі застануцца ў бліжэйшай будучыні




**Сёння мы пагаворым пра будучае сферы паслуг. Пра гэта раскажа дырэктар вучэбнага цэнтра "Сфера прыгажосці" абсалютная чэмпіёнка Беларусі па макіяжы Святлана Прадуха.**

Апошнім часам аналітыкі і эксперты ў галіне працы ўсё больш гавораць, што аўтаматызацыя і робатызацыя ў хуткім часе адправяць мноства прафесій у гісторыю.

Калі верыць спецыялістам рынку працы, ужо праз пяць гадоў не будзе такіх прафесій, як бухгалтар, прадавец, касір, адміністратар, бізнес-трэнер, будаўнік, кіроўца, доктар-дыягност і іншыя.

Дамы будуць будаваць 3D-прынтары, аўтамабілі, а дакладней электрамабілі, будуць кіравацца электрапілотам. З чыноўнікаў застануцца толькі тыя, хто займаецца непасрэдна праверкамі. Улік і аналіз камп'ютар будзе рабіць аўтаматычна.

Камп'ютары будуць адсылаць і збіраць дадзеныя анлайн. Пакупкі будзем рабіць праз інтэрнэт. У супермаркетах самі, без касіраў, праскануем тавары і разлічымся электроннымі грашыма. Наяўных грошаў не будзе. Усе плацяжы будуць адсочваца, і "шэры" рынак знікне. Таму многія будуць перавучвацца і шукаць новую работу. Аўтаматызацыя вытворчасці зменіць рынак працы ўжо праз некалькі гадоў.

## Якія ж прафесіі немагчыма замяніць робатамі?

Гэта ў першую чаргу сфера паслуг: цырульнікі, візажысты, касметыкі, майстры пазногцевага сэрвісу, настаўнікі, тэрапеўты, і тыя, хто працуе непасрэдна з чалавекам. Некаторы час будуць запатрабаваныя IT-спецыялісты.

Аднак ёсць шанец, што рынак пойдзе на Усход, калі Кітай з Індыяй забяруць увесь IT-рынак сабе, пакінуўшы работу толькі для кваліфікаваных спецыялістаў з Беларусі. Пасрэдныя спецыялісты ўжо цяпер незапатрабаваныя.

Ужо сёння ўсе краіны па-рознаму рыхтуюцца да новай эканомікі. У Швейцарыі праз надыходзячую аўтаматызацыю і недахоп работы для людзей уводзяць закон, згодна з якім кожны жыхар будзе атрымліваць 2000 еўра ў месяц і працаваць толькі, калі сам гэтага захоча. Напрыклад, займацца мастацтвам, літаратурай, самаразвіццём і чым заўгодна.

У Беларусі, як мы самі разумеем, прыйдзецца перавучвацца і актыўна працаваць, проста так грошы ў нас не даюць.

**Таму тыя, хто раней за ўсіх пачне пераходзіць у новую рэальнасць, змогуць лепш адаптавацца і засцерагчы сябе ва ўмовах новай эканомікі.**

Ужо сёння ў сферу паслуг прыходзіць больш жанчын. І ў гэтым "Сфера прыгажосці" актыўна дапамагае, бо робат ніколі не зробіць прычоску ці макіяж лепш за чалавека.

Вучэбны цэнтр "Сфера прыгажосці" навучае па новых тэхналогіях толькі якаснай касметыкай ва ўтульным офісе ў цэнтры горада.

НАВІНЫ

## Вучні “Логаса” наведваюць тэатр і сустракаюцца з акцёрамі і рэжысёрамі

ВІЛЕЙКА

Сёлета ў раёне пачалі творчы праект – клуб “Сябры Новага тэатра”.

Сутнасць праекта ў тым, што на працягу навучальнага года старшакласнікі горада і раёна будуць не толькі наведваць спектаклі Новага драматычнага тэатра ў Мінску, але і сустракацца з акцёрамі, рэжысёрамі пастановак.

Усё гэта стала магчымым дзякуючы ініцыятыве начальніка аддзела адукацыі спорту і турызму **Аляксандра Пуцэйкі** і галоўнага адміністратара тэатра **Аляксандра Хаета**.

Запланавалі пяць сустрэч-пасяджэнняў клуба. Першая адбылася 29 кастрычніка. Мы паглядзелі спектакль “І чуюцца толькі гукі паланэза...”.

26 лістапада была другая сустрэча. Мы ўбачылі спектакль “Шчасце маё...”. Ён створаны на аснове аднайменнай п’есы расійскага драматурга Аляксандра Чарвінскага, напісанай у першай палове 1980-х.

Гэта меладраматычная гісторыя пра каханне і вернасць, пра высакароднасць пачуццяў. Дзеянне адбываецца ў першыя пасляваенныя гады.

Гэта быў не проста спектакль, гэта было жыццё, якое мы жылі разам з галоўнымі героямі: Вікторыяй (**Надзеяй Анціповіч**), Сямёнам (**Аляксеем Верашчакам**), Лідзіяй Іванаўнай (**Людмілай Баталавай**), Аскарам Барысавічам (**Валерыем Агаянянам**), піянерам (**Паўлам Чарновым**).

Па словах глядачкі **Анастасіі**, спектакль ёй вельмі спадабаўся. Інтрыгуе сюжэт з драматычным канцом. Гульня акцёраў захоплівала дух настолькі, што дзяўчыне здавалася, быццам яна сама апынулася ў тым часе.

Пасля спектакля гледачы сустрэліся з акцёрамі, удзельнікамі пастаноўкі, галоўным рэжысёрам тэатра **Сяргеем Кулікоўскім** і вядучым такіх сустрэч акцёрам тэатра **Ігарам Падлівальчавым**.

Размова з акцёрамі была душэўнай і вясёлай, бо гэтыя людзі поўны шчырых эмоцый і пазітыўнага настрою.

Як сказаў Ігар Падлівальчаў, спектакль – гэта вельмі жывая структура. Адкрываецца заслона – і ён нараджаецца разам з вашым успрыманнем.

**Святлана ЗГЕРСКАЯ, Алена БАЛУШ, настаўніцы гімназіі “Логас”.**

## Алімпійскія вяршыні “Логаса”: 31 дыплом на раённай алімпіядзе атрымалі вучні гімназіі

ВІЛЕЙКА

Паводле легендаў, Алімпійскія гульні ўпершыню арганізаваў у старажытныя часы Геракл. Праводзіліся яны адзін раз у пяць гадоў.

Сёння алімпійскія спаборніцтвы ёсць не толькі ў спорце. Школьная прадметная алімпіяда – гэта, перш за ўсе, інтэлектуальныя спаборніцтвы па прадмеце. Праводзяцца яны, каб заўважыць адораных і таленавітых дзяцей, развіць іх цікаўнасць і інтэлект.

Рэспубліканская прадметная алімпіяда ладзіцца ў чатыры этапы. Як звычайна, у лістападзе закончыўся другі, раённы, этап. І нам прыемна, што гімназія “Логас” зноў пацвердзіла сваё імя.

У другім этапе рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах гэтага навучальнага года удзельнічалі 206 вучняў раёна. Нашы вучні прынеслі ў скарбонку гімназіі найбольшую колькасць дыпломаў – 31.

Першае месца ў раёне занялі 17 вучняў: **Аляксандра Мельнікава** (10 “А” клас) і **Ілья Курыловіч** (8 “Б” клас) па матэматыцы, **Клім Севярын** (9 “В” клас) па інфарматыцы, **Максім Маліноўскі** (11 “Б” клас) і **Павел Клемянтовіч** (10 “Б” клас) па геаграфіі, **Ягор Белахвостаў** (11 “Б” клас), **Анастасія Пасled** (9 “А” клас) і **Анастасія Каробчыц** (9 “В” клас) па хіміі, **Кацярына Багачэнка** (10 “Б” клас) па біялогіі, **Анатоль Козел** (9 “А” клас) па фізіцы, **Аліна Дубаневіч** (10 “Б” клас) па працоўным навучанні, **Дар’я Капцюг** (11 ”А” клас), **Таццяна Касяк** (10 “А” клас) і **Анастасія Малевіч** (9 “Б” клас) па рускай мове, **Анастасія Бахар** (11 “Б” клас) па англійскай мове, **Аляксей Хаценчык** (11 “Б” клас) і **Марыя Борыс** (10 “А” клас) па грамадазнаўстве, другое месца ў раёне занялі дзевяць вучняў гімназіі, трэцяе месца – пяць вучняў.

Вынікі добрыя, але гэта толькі другая прыступка да вяршынь рэспубліканскай алімпіяды.

**Алена МАЧЭЛЬ, настаўніца беларускай мовы і літаратуры вілейскай гімназіі “Логас”.**



Фота забяспечанае Сяргеем МАКАРЭВІЧАМ.

Рэжысёр-дакументаліст Муза Заслонава ў час працы.



Фота забяспечанае Сяргеем МАКАРЭВІЧАМ.

Інтэлігентнай і прыгожай жанчынай запомнілася Муза Заслонава Розе Шэрай.

# Памерла Муза Заслонава. Яна жыла ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Дачка легендарнага партызана Канстанціна Заслонава здымала дакументальныя фільмы, пісала кнігі.**

Пераехаўшы са сталіцы колькі гадоў таму, яна купіла ў Вілейцы больш сціплую кватэру. А таксама набыла камп’ютар, каб напісаць кнігу пра сваю сям’ю.

А ў 2013 годзе ў Вілейцы яна сустрэлася з вучнямі ільянскай школы, расказала пра сябе і сваю сям’ю, пачаставала дзяцей цукеркамі.

**Роза Шэрая**, кіраўнік школьнага народнага музея “Вілейшчына літаратурная” ў Ілы, даведалася, што дачка легендарнага партызана жыве ў Вілейцы. У школе вырашылі сустрэцца з Музай Канстанцінаўнай, патэлефанавалі ёй, абмеркавалі час сустрэчы. Нават распрацавалі сцэнарый і песню пра Канстанціна Заслонава ў інтэрнэце адшукалі, каб яна гучала на мерапрыемстве.

Аднак, па словах Розы Шэрай, да прызначанай даты Муза Заслонава прыехаць не змагла, бо не зусім добра сябе адчувала. Тады па папярэдняй дамоўленасці **Роза Шэрая** разам з настаўніцай гісторыі **Людмілай Маркевіч** і некалькімі вучнямі самі завіталі да Музы Заслонавай у Вілейку.

– 80-гадовая дачка Канстанціна Заслонава запомнілася мне зусім не старэнькай кабетай, а прыгожай, інтэлігентнай і разумнай жанчынай, – успамінае Роза Шэрая. – А яшчэ вельмі простай. Яна доўга ў нас пыталася, чаму мы вырашылі прыехаць да яе, такой звычайнай жынчыны.

На што госці адказалі, што дачка Героя Савецкага Саюза, аўтар кніг і рэжысёр фільмаў для іх зусім не звычайная жанчына.

Муза Канстанцінаўна расказала, што кожны дзень робіць зарадку, а ў цёплыя дні яшчэ і ранішнія прабежкі, шмат чытае, піша, працуе з архіўнымі дакументамі, ездзіць па краіне.

Распавяла ільянскім вучням пра сябе і сваю сям’ю. Пра бацьку, маці, сястру **Ізу**, пляменніка **Рамана Заслонава**, сына Ізы. Раман – вядомы мастак, ён жыве і працуе ў Парыжы.

Прыгадала сваю працу рэжысёра-дакументаліста. Расказала, што журналісцкую адукацыю атрымала ў Мінску, потым скончыла Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі ў Маскве. Вучылася на курсе ў кінадакументаліста прафесара Рамана Кармэна. Прызналася, што рэалізавала даўнюю мару: напісала кнігу пра бацьку і стварыла фільм пра яго.

Муза Канстанцінаўна пазнаёмілася з кожным з дзяцей, распытала, хто ў якім класе вучыцца, чым цікавіцца. Па словах Розы Шэрай, дзецям была прыемная такая ўвага.

**Абстаноўка ў кватэры дачкі Заслонава, заўважыла Роза Шэрая, была сціплая. Кідалася ў вочы, што жанчына тут быццам бы не плануе надоўга затрымлівацца.**

І сапраўды, з гутаркі з Музай Заслонавай госці даведаліся, што яна збіраецца з’язджаць на Кубу, каб напісаць там новую кнігу.

Для сваіх гасцей Муза Канстанцінаўна прынесла вялікую талерку розных цукерак. А школе падарыла раннюю карціну свайго пляменніка мастака Рамана Заслонава. Цяпер яна ўпрыгожвае школьны народны музей “Вілейшчына літаратурная”.

**Даведка “РГ”. Муза Заслонава.** Нарадзілася ў 1933 годзе ў Хабараўскім краі. У 1957 годзе скончыла аддзяленне журналістыкі БДУ, у 1966-м – Усесаюзны інстытут кінематаграфіі ў Маскве. Рэжысёр-дакументаліст. Зняла фільмы “Салдаты крэпасці”, “Бацька”, “Школьныя акварэлі”, “Гарачы подых Поўначы”. У 2011 годзе выдала кнігу ўспамінаў “Фамілія” . Памерла ў Вілейцы 2 снежня 2016 года.

**Канстанцін Заслонаў.** Псеўданім Дзядзька Косця. Герой Савецкага Саюза (пасмяротна). Нарадзіўся ў 1910 годзе ў Расіі, у Цвярской вобласці. Працаваў на чыгунцы ў Расіі і Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі ўладкаваўся ў аршанскае дэпо. Стварыў падпольную дыверсійную групу. Пад пагрозай арышту сышоў у партызаны. Загінуў у 1942 годзе ў баі каля вёскі Купаваць Сенненскага раёна. Перапахаваны ў Оршы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ВАЗ-2105, 1991 г.в., 1,1 бензін,чырвоны, 100 тыс. руб., торг, выдатны стан. Маладзечна. Т. (8-029) 3457616, (8-033) 3755061.
- Гольф 3, 1994 г.в, 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газбензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Нісан-Сані, 1993 г.в., 1,6 інжэктар, седан, блакітны металік, добры стан, 2300 руб. Т. (8-025) 7606681.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-405, 1995 г.в, 1,8 бензін, седан, техагляд, зімовыя шыны, добры стан. Т. (8-044) 5596932.
- Пежо-406, 2003 г.в., дызель 2,0 НДІ, цана 7000 рублёў. Т. (8-029) 9462238.*
- Сітраэн-Ксара, 2000 г.в., 2,0 бензін, універсал, колер графіт, эл. пакет, 5800 руб. Вілейка. Т. (8-029) 8576731, (8-044) 4980212.
- Фіят-Брава, 1997 г.в., 1,6 бензін, 5 МКП, шэры. Т. (8-029)Т. (8-029) 9346173.
- Фіят-Палеа, 1998 г.в., 1,6 бензін, серабрысты металік. Тэрмінова! Маладзечна. Т. (8-033) 3429738.
- Форд Эскорт, 1992 г.в. Т. (8-01771) 21325.
- Аўташыны зімовыя, 2 шт. (Белшына R15 205/65). Т. (8-033) 3985912.*
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- Гума R17 235/60 зіма, выдатны стан. Т. (8-029) 5519902.*
- Калёсы зіма 185/65 R15, выдатны стан. Францыя. Т. (8-029) 6207706.
- Запчасткі да ВАЗ-2101, б/к. Т. (8-044) 4703638.
- Запчасткі да Опель-Астра, 1997 г.в.,1,6 мона, хэтчбэк, б/к. Т. (8-044) 4703638.
- Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 1 паверх. Т. (8-033) 6333225.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-025) 7417101, (8-01771) 20165.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2520004.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв. м. Т. (8-029) 6795426.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6842528.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Крынічнай, 25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК-2, блок №10. Вілейка. Т. (8-029) 6842528.*
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом і зямельны участак 0,13 га, в. Ілішчавічы, д. 70, 1 і 3 фазн. электр., газ, тэлефон, ТВ, НЭТ, калодзеж, сад, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 2716622, +79035 849995.
- Дом у в. Кражына Валожынскага раёна з гаспадарчымі пабудовамі, участак 25 сотак, 150 м ад рэчкі Заходняя Бярэзіна, побач лес, 80 км ад Мінска. Т. (8-029) 6618854.
- Дом у в. Палачаны, 3 пакоі, 10 сотак, гараж, летняя кухня, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 5689544.
- Дом у в. Порса Вілейскага р-на. Выгоды ў доме. 52 кв. м. Т. (8-033) 6037713.
- Дом у Маладзечне. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом у цэнтры Вілейкі на беразе ракі Вілія. Т. (8-029) 6350439, (8-029) 6901901.
- Пабудова ў цэнтры Валожына плошчай 30 кв. м. Тэрмінова! Кошт 28000 рублей. Торг да месца. Т. (8-044) 5660669.

### МЯНЯЮ

- 1,5-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую па вул. Ясінскай у Маладзечне, 3 паверх 5-павярховага дома, жылая плошча 18,9 кв. м, прыхожая 10,33 кв.м, кухня 6,6 кв.м, лоджыя 6 м. Усюды шклопакеты. Кватэра ў добрым стане. Т. (8-0176) 738233, (8-029) 1605944.*

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру з частковымі выгодамі. Т. (8-029) 8645108.
- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 8561186.
- Пакой для хлопца ў Маладзечне, 6 мікрараён. Т. (8-029) 5719435.
- Пакой у кватэры без гаспадароў для дзяўчат па вул. Будаўнікоў у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 8646072.
- 2 пакоі ў прыватным доме ў Маладзечне. Ёсць прыродны газ. Без дзяцей. Нядорага. Т. (8-0176) 504843, (8-029) 8771082.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з санвузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з санвузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/ вытворчасць/ склад. Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне.ІП Суднікові В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Паслугі перавозкі МАЗ, 10 т.: дровы (бярозавыя), гравій, чарназём. ІП Слуцкі Д.В. УНП 691172393. Т. (8-029)8758586.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафыкупэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Выраб фрэзерных, гравіравальных работ станком з лічбавым праграмным упраўленнем (ЧПУ) на любым матэрыяле. ІП Войніч В.Я. УНП 691509741. Т. (8-029) 2250124, (8-033) 3828008.
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катэраў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Выканаем комплексны рамонт: тынкоўка, столь з ГКЛ, шпаклёўка, афарбоўка, электрыка, сантэхніка, укладка пліткі, ламінату, паклейка шпалер (обоев). ІП Крывашэя В.Г. УНП 691885229. Т. (8-029) 1391932.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах

*Працяг. Пачатак у №49.*

ВІЛЕЙКА

**Апошнім часам гістарычнай праўды раскрываецца шмат, але далёка не ўся. Таму, пакуль ёсць яшчэ жывыя сведкі тых далёкіх і трагічных часоў, трэба, не губляючы часу, запісваць і абнародаваць іх праўдзівыя расповеды пра сталінскія рэпрэсіі і жахі апошняй вайны.**

### Каханне Пётры і Амілі

Аднойчы ў кузню падрамантаваць матычку завітала маладзіца з Мардасоў Аміля. Такую красуню Пётра не мог не заўважыць. Ды і сэрца дзяўчыны неяк адразу ж запала на статнага, высокага, дужага маладога хлопца. Яго чарнява-кучаравая шавялюра вабіла да сябе. Рэгулярныя сустрэчы хутка перараслі ў моцнае каханне. І закаханыя вырашылі расказаць пра свае адносіны бацькам дзяўчыны.

Набраўшыся рашучасці, неяк летнім суботнім надвячоркам 22-гадовы Пётра зайшоў на падворак да Ігнацыя і Марылі Дарожкаў, дзе жыла яго каханая Аміля. Сям'я Дарожкаў мела два гектары зямлі і вяла сваю ўласную гаспадарку. Быў свой конь з усімі прыладамі, а таксама ўся жыўнасць. Маці разам з Аміляй займаліся па гаспадарцы, а бацька служыў кухарам пры двары ў Лукавецкім маёнтку паноў Бароўскіх.

Мэта візіту маладога хлопца прыйшлася не па душы бацькам маладой. Яны катэгарычна адмовілі ў намеры Пётры пабрацца шлюбам з Аміляй. Жаніх без кала і двара, толькі з адной каровай, ніяк не задавальняў гэту сялянскую сям'ю з сярэднім дастаткам. Ігнацi, бацька Амілі, параіў Пётру, каб той спачатку сабраў хоць такія-сякія сродкі, а пасля ўжо можна будзе і пра вяселле пагаварыць.

Закаханая пара апынулася ў складаным становішчы. Пятрусь разумеў, што, працуючы ў кузні, за кароткі час не зможа сябе забяспечыць. Заставалася толькі адно выйсце, падацца за мяжу на заробкі.

### Пётра паехаў на заробкі і прапаў, а Аміля…

Улетку 1930 года ў Пётры з'явіліся дзве магчымасці. Адна была далёка за акіянам, ажно на амерыканскім кантыненце. Яна гарантавала кожнаму праз гады два вярнуцца на Радзіму з грашыма. А вось другая, не зусім надзейная і невядомая, – у Расіі, мяжа якой пралягала ў вярсце ад Мардасоў.

Бальшавіцкія лазутчыкі агітавалі мясцовае насельніцтва на супрацоўніцтва з імі дзеля хутчэйшага вызвалення заходняй часткі Беларусі ад польскага панавання. А пакуль тут яшчэ паны, то савецкая Расія дае магчымасць зарабляць добрыя грошы не за акіянам, а тут, на месцы, у суседняй брацкай краіне саветаў.

Але для ўсіх ахвотнікаў расійскага рубля жыццё скончылася ГУЛАГам. Купіўся на агітацыю і Пятрусь. Вырашыў, што расійскі варыянт для яго лепш падыходзіць, чым амерыканскі. Усё ж такі якмае свае, і мова зразумелая.

Кароткая летняя ноч для закаханых праляцела у адно імгненне. Развітаўшыся са сваёй Аміляй ужо на досвітку, Пётра рушыў праз мяжу ў савецкія Паншы, за шчасцем з бальшавіцкага раю. Дамоў і да сваёй каханай Амілі ён больш так і не вярнуўся.

Пасля апошняй той сустрэчы Аміля зацяжарала і ў наступным, 1931, годзе нарадзіла хлопчыка. Немаўля назвалі Іосіфам, а па бацьку Пятровічам. А вось прозвішча вымушаны былі пакінуць па маці, бо з Пётрам Боханам Аміля не была павянчаная.

### Сын Пётры і Амілі

Праз год пасля таго, як Пётра сышоў за мяжу, і не атрымаўшы ад яго ніякіх звестак, пан Ігнась кароўку Пётры перадаў Амілі і яе сыну Юзюку, як бацькаву спадчыну. А ад сябе асабіста падарыў гектар зямлі. Аміля, застаўшыся у бацькоўскай хаце, працавала па гаспадарцы, апрацоўвала зямлю і гадавала сына. Хлапчук падрастаў і з кожным разам усё больш і больш станавіўся падобным да свайго бацькі, Пётры.




Вёска Мардасы Вілейскага раёна.

Не па гадах дужы і кемлівы, як і бацька, чарнява-кучаравы Юзюк да прыходу бальшавікоў у 1939 годзе паспеў скончыць два класы польскай школы.

Новая савецкая ўлада пазачыняла польскія школы, многіх настаўнікаў, якія не паспелі збегчы на Захад, арыштавала. Усіх іх напаткаў лёс нашага знакамітага земляка Пётры Сыча.

Юзюку Сыч добра запомніўся, таму што той умеў вельмі добра маляваць. У лічаныя хвіліны мог намаляваць твар любога ахвотнага. Намаляваў Пётра і Юзюкоў партрэт, але падчас вайны яго хтосьці скраў.

### Прыход новай улады

Дзень 17 верасня 1939 года прынёс некаторым вяскоўцам радасць, некаторым – расчараванні, гора да слёзы. Новая ўлада пачала мясці па-новаму, аб'явіўшы на вызваленай зямлі раўнапраўе і волю ўсім яе жыхарам. Толькі для працавітых і сумленных людзей гэта раўнапраўе і воля аказаліся горш за няволю.

Заможным сялянам прапаноўвалася "добраахвотна" падзяліцца сваімі пажыткамі з мясцовай беднатой. Лайдакоў і п'яніц сярод сялян хапала і ў той час. Вось гэтыя лайдакі ды п'яніцы аднымі з першых рушылі рабаваць маёмасць паноў Бароўскіх.

З маёнтка расцягнулі ўсё, што толькі можна было, а што не ўдалося прысабечыць, то паламалі, пакрышылі. Ужо праз тыдзень, гледзячы на голыя мураваныя сцены, было вельмі цяжка нават уявіць, што тут зусім нядаўна віравала шчаслівае людское жыццё. Што працавалі вяскоўцы, абслуга панскага двара.

У вачах Юзюковага дзеда Ігнацыя, ужо былога панскага кухара, увесь гэты жах выглядаў страшэнным і жудасным сном. З панскага бровара за суткі расцягнулі ўсё ягонае абсталяванне і ўсе запасы спірту.

А вось на свінарнік, кароўнікі і канюшні бальшавікі наклалі вета, назваўшы іх стратэгічнымі аб'ектамі. Для савецкай улады яны на самой справе былі стратэгічнага значэння, бо тады бальшавікі жылі ў вялікай галечы.

У той час, пакуль сяляне рабавалі маёнткі, савецкія вайскоўцы ладзілі абозы з панскіх коней, загружалі іх кабанамі з панскага свінарніка і адпраўлялі, ужо за былую савецка-польскую мяжу. З кароўнікаў забралі, праўда, толькі панскую жывёлу; сялянскіх кароў, якія стаялі з панскімі разам, не закранулі. Насельніцтву тлумачылі, што гэта забіраецца для патрэб Чырвонай Арміі.

Іосіф Пятровіч добра памятае, як тыя абозы бралі накірунак на Усход. Ужо праз некалькі месяцаў мардасяне ўсвядомілі, што атрымалі ўзамен польскай паншчыны. Фактычна ўсіх тут напаткала амаль што поўнае беззямелле і беспрацоўе.

Беззямельнае насельніцтва, атрымаўшы ад новай улады зямлю, не ведала, што з ёй рабіць, як і чым яе апрацоўваць? Тыя, хто меў сваю гаспадарку раней, цяпер яшчэ так-сяк мог звярнуцца. Але вось збыць, як раней, лішкі сваёй прадукцыі ўжо не было магчымым.

Раней усё ў сялян скуплялі паны Бароўскія, якія мелі розныя невялікія вытворчасці. Малако можна было здаць на млячарню ў Хаценчыцах альбо на сырабойню ў Чарвякі (цяперашняя Сакалоўка).

У тых самых Хаценчыцах працавала кілбасная, на якую кожны мог здаць цяля альбо кабана на мяса. У Лукаўцах на броварную ад насельніцтва прымалі яблыкі ды збожжа на спірт. На свінарнік у Лукаўцы ды на кароўнікі пастаянна прымалася бульба, буракі, бручка і ўсё астатняе, што толькі можна было аддаць на корм жывёле. За ўсё гэта паны Бароўскія плацілі.

Але што зрабілася, тое зрабілася! Надзеі вярнуць усё назад не было ўжо ніякай. Кожны пачаў працаваць, разлічваючы толькі на сябе.

Саветы сваю ўвагу звярталі не на жыццё грамадзян, а толькі на выяўленне "ворагаў народа". І ім гэта ўдавалася, бо прыхільнікаў новай улады сярод насельніцтва хапала.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**
**Працяг будзе.**

---

КАЛЯНДАР

**9 СНЕЖНЯ**

**125 гадоў** з дня нараджэння Максіма Багдановіча (1891-1917), класіка беларускай літаратуры.

**10 СНЕЖНЯ**

**Дзень правоў чалавека.**

**11 СНЕЖНЯ**

**25 гадоў** з часу стварэння (1991) Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства і рэтраінфармацыі (створаны на базе Інстытута гісторыка-палітычных даследаванняў КПБ, з 25 студзеня 1994 года – Беларускі навукова-даследчы цэнтр дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы, ад 31 студзеня 1996 года – Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы).

**12 СНЕЖНЯ**

**220 гадоў** назад (1796) створана Беларуская губерня (шляхам аб'яднання Магілёўскага і Полацкага намесніцтваў) з цэнтрам у Віцебску (існавала да 1802 года).

**У снежні** спаўняецца 50 гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю (1966) 2-й чаргі электрыфікаванага ўчастка Беларускай чыгункі Мінск – Маладзечна.

**130 гадоў** назад у вёсцы Губы (цяпер Вілейскі раён) нарадзіўся Касьян Вясёлы (сапраўднае Аўдзей Вікенці Язэпавіч) (1886 – 1916), педагог, пісьменнік, скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, Віленскі настаўніцкі інстытут, працаваў у гарадскіх вучылішчах Вільні і Вілейкі, збіраў мясцовы фальклор. Загінуў на фронце ў 1916 годзе.

**125 гадоў** назад у Вілейцы нарадзіўся Мікалай Красінскі (1891 – 1938), беларускі тэатральны дзеяч, старшыня тэатральнай секцыі Інбелкульта (1925), у 1926 – 1928 гадах быў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатра-2, арыштаваны ў 1930 годзе. Асуджаны на пяць гадоў і высланы ў Шадрынск, зноў арыштаваны ў 1938 годзе і расстраляны. У 1960 годзе рэабілітаваны.

**95 гадоў** назад (1921) нарадзіўся Аляксандр Мазанік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ад 1964 года – у Маладзечне, узначальваў гарадское аддзяленне Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Па яго ініцыятыве і пры яго садзейнічанні ў горадзе ўзведзены мемарыяльны комплекс "Шталаг-342" – як памяць аб ваеннапалонных і мірных жыхарах, якія загінулі ў 1941 – 1944 гадах у лагеры.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**


Архіў "РГ".

Мікола Аўчынікаў.

## Сябры, калегі і вучні павіншавалі Міколу Аўчыннікава з юбілеем

МАЛАДЗЕЧНА

**Юбілейная вечарына "Сучассе" з нагоды 65-годдзя з дня нараджэння і 40-годдзя творчай дзейнасці мастака, члена Беларускага саюза мастакоў Міколы Аўчыннікава адбылася ў Палацы культуры 2 снежня.**

– Беларусь багатая на таленавітых і працавітых людзей. А Маладзечанскі край займае асаблівае месца ў Мінскай вобласці. Мы ганарымся сваім горадам, знакамітымі землякамі, чые імёны праслаўляем, – менавіта з гэтых слоў пачаўся вечар.

Юбіляра прыехалі павіншаваць сябры, калегі і самыя блізкія людзі, у тым ліку сын **Альберт**. У адрас мастака прагучала мноства віншаванняў і прапаноў. Кожны чалавек, які хоць аднойчы сутыкаўся з ім у працы ці ў жыцці, казаў прыемныя словы.

– У Беларускім саюзе мастакоў больш за тысячу творцаў, і кожны лічыць сябе адметным. Аднак Мікола Аўчыннікаў не згубіўся ў шматлікай грамадзе, – лічыць прэзідэнт Міжнароднай канфедэрацыі саюза мастакоў **Рыгор Сітніца**.

Маляваннем Мікола захапіўся яшчэ ў маленстве. Пасталеўшы, працягнуў займацца творчасцю ў Віцебскім педагагічным інстытуце на мастацка-графічным факультэце разам са сваім сябрам **Васілём Касцючэнкам**, які таксама завітаў на сустрэчу і адзначыў:

– Гэта прыклад чалавека, які прыехаў у Маладзечна, а не ў сталіцу, і знайшоў тут сябе.

Для імянінніка пелі песні, чыталі вершы. Жывы тэатралізаваны падарунак падрыхтавалі вучні гімназіі-каледжа мастацтваў, дзе выкладае Мікола Аўчыннікаў.

– Мастак павінны быць, як птушачка, якая сядзіць на дрэўцы і спявае. Для каго? Для чаго? Бо ёй хочацца гэта рабіць, – кажа Мікола Аўчыннікаў. – Так і мастак: будуць яго слухаць, глядзець, крытыкаваць – усё роўна ён працягне займацца сваёй працай.

Юбілейная вечарына завяршылася адкрыццём выставы жывапісу мастака, якая будзе праходзіць да 19 снежня.

**Валянціна ТРУБАЧ, школа журналістыкі "Маладзік".**

## На Нарачы пачынаюцца калядныя кірмашы

МЯДЗЕЛ

У курортным пасёлку Нарач (Купа) ад 10 снежня стартуюць калядныя кірмашы. На іх наладзяць выставу-продаж калядных і навагодніх сувеніраў, ёлачных цацак, арганізуюць гульні і конкурсы, канцэртна-танцавальную праграму, сустрэчу з казачнымі персанажамі.

Пачнецца кірмаш у 11 гадзін у "Зялёным тэатры", паведамляе сайт Мядзельскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота stadt-wien.at.

# Як адзначыць Каляды ў нямецкім стылі

**Для многіх жыхароў Беларусі галоўнае зімовае свята – Новы год, а Каляды калі і адзначаюць, то больш сціпла. Мы прапануем не адмаўляць сабе святкаваць гэтае чароўнае свята з поўным задавальненнем і 25 снежня, і 7 студзеня.**

### Падрыхтоўка

Снежань у Германіі – месяц для прыемных сустрэч з сябрамі і сваякамі, час чароўных прыгод у дзяцей. Дамы і вуліцы ўпрыгожаныя, а на кухню вабяць смачныя пахі.

Як і большасць заходнееўрапейскіх краін, Германія больш увагі надае Калядам, чым Новаму году. А перад галоўным днём ёсць чатыры святочныя Адвенты – чатыры нядзелі перад Калядамі. У гэтыя дні сям'я збіраецца дома за святочным сталом.

А на самым ганаровым месцы дома ставяць вянок з галінак елкі. Яго ўпрыгожваюць чатырма свечкамі, і кожную з іх запальваюць па чарзе: першую ў першы Адвент, другую – у другі і гэтак далей.

На першы Адвент пачынаюць працаваць калядныя кірмашы. На іх прадаюць не толькі звязаныя са святам прадметы, але і шмат смачнай вулічнай ежы: смажаныя кілбаскі, слодычы, глінтвейн, іншае. Для дзяцей ладзяць атракцыёны. Усе частуюцца і гуляюць. Праўда, цэны на такіх кірмашах звычайна вышэйшыя, чым у іншы час.

### Стол

Святочнасць стала для немцаў у першую чаргу не ў тым, што на ім прадукты, якія ядуць раз на год, ад страў ломіцца стол, а ядуць іх пасля тыдзень.

**Найперш святочнасць забяспечваюць адмысловыя ўпрыгажэнні, якія выкарыстоўваюць толькі ў гэты час.**

Святочная вячэра не абыходзіцца без рыбы, сімвала хрысціянства. Звычайна выбіраюць стронгу. Адна з фірменных страў – запечаная ў яблыках гусь, прычым рэцэпт гэтай стравы ў кожнай гаспадыні свой. У суседняй Аўстрыі, напрыклад, гатаваць на Каляды птушку лічаць кепскай прыкметай – мясцовыя жыхары вераць, што з-за гэтага паляцяць ад іх шчасце. У астатнім гатуюць звычайную ежу, толькі салодкае для дзяцей назапашваюць разнастайнае і не шкадуючы.

Сярод ласункаў самая галоўная выпечка – імбірны пернік. Іх робяць у выглядзе анёлкаў, зорачак і нават домікаў. Асабліва важна, калі імбірныя пернікі выпякаюць усёй сям'ёй.

Яшчэ адна салодкая страва нямецкага каляднага стала – штрудзель. У начынку дадаюць не толькі яблыкі і разынкі, але і кедравыя арэшкі.

Традыцыйны калядны пірог штолен нагадвае спавітае немаўля. У гэту выпечку дадаюць міндаль, разынкі, цэдру апельсіна, ром, спецыі, а пасыпаюць цукровай пудрай. На наступны дзень ён становіцца яшчэ смачнейшым, таму выдатна падыдзе для сняданка на наступны пасля Калядаў дзень.

Гарнірам да асноўнай стравы часта падаюць бульбяную салату. Пераважна яна вельмі тлустая, але бываюць і менш каларыйныя варыянты. Для стравы змешваюць з бульбай салёны агурок, шпік і цыбулю, усё запраўляюць маянэзам.

Калядны вечар – ідэальны час для сагравальнага глінтвейна. Для яго змешваюць чырвонае сухое віно са спецыямі і лімоннай цэдрай. Кожны варыць такі варыянт напою, які найбольш смачны яму.

Адчуць Каляды панямецку на смак вам дапамогуць традыцыйныя рэцэпты.

### Рэцэпт штолена

*200 мл малака, 50 грамаў дрожджэй, 75 грамаў цукру, 250 грамаў масла, 700 грамаў мукі, 250 грамаў міндаля, 350 грамаў разынак, 50 грамаў рому, 1 лімон, молатая карыца і цукровая пудра, цукаты.*

Замачыце разынкі на ноч. Падагрэйце малако, развядзіце ў ім дрожджы. Дадайце 1 сталовую лыжку цукру і частку прасеянай мукі. Пакіньце на 30 хвілін у цёплым месцы. Калі на рошчыне з'явіцца шапачка, можна замешваць цеста.

Дадайце ў рошчыну астатнюю муку, масла, яйкі, соль і цукар. Замясіце цеста. Накрыйце льняным ручніком і дайце падысці ў цёплым месцы.

Насячыце міндаль, нарэжце цукаты, зніміце з лімона цэдру і выцісніце з яго сок.

У цеста дадайце арэхі, цукаты, разынкі, сок і цэдру лімона, і таксама карыцу і ванільны цукар. Каб вымесіць цеста, давядзецца пастарацца, бо яно даволі цяжкае.

Пакіньце цеста на тры гадзіны, і кожную гадзіну падыходзьце яго абмяць.

Раздзяліце цеста на два роўныя кавалкі, кожны вылепіце патрэбнай формы.

Выкладзіце на бляху на пякарскую паперу. Пакіньце на паўгадзіны.

У разагрэтую да 220 градусаў духоўку пастаўце штолены на 15 хвілін. Пасля скіньце тэмпературу да 170 і выпякайце яшчэ 45 хвілін.

Гатовыя калядныя пірагі змажце растопленым маслам і добра пасыпце цукровай пудрай.

Калі гатуеце загадзя, загарніце ў пергамент і захоўвайце ў халодным месцы некалькі тыдняў.

**Эмілія ХВОЯ.**

Пасольства Германіі ў Мінску УНП 101 166 185

Ніна Аляксандраўна і Міхаіл Уладзіміравіч Габрыновічы разам ледзьве не ўсё жыццё. Спачатку ў школу хадзілі разам, перапісваліся, калі ён пайшоў у армію. Пасля працавалі на харчовым камбінаце. Там і вырашылі пажаніцца.





Фота забяспечаныя Нінай і Міхаілам ГАБРЫНОВІЧАМІ.

# Я і 50 гадоў таму быў супраць вяселля

МАЛАДЗЕЧНА

**Шостага снежня Ніна Аляксандраўна і Міхаіл Уладзіміравіч Габрыновічы** адзначылі залатое вяселле.

Спачатку іх дзеці і ўнукі меркавалі, што бабуля з дзядулем пагодзяцца на ўрачыстую рэгістрацыю ў Маладзечанскім ЗАГСе, але ў апошнюю хвіліну, нягледзячы на новы куплены гальштук, Міхаіл Уладзіміравіч перадумаў:

– Ды навошта нам тая паказуха! Жывём і жывём.

А знаёмыя Ніна Аляксандраўна і Міхаіл Уладзіміравіч амаль усё жыццё.

– Разам у школу хадзілі, у першую, – расказвае Ніна Уладзіміраўна. – Потым ён у войска пайшоў, пісалі пісьмы адно аднаму, а як вярнуўся, разам сталі працаваць на харчовым камбінаце. Там і вырашылі пажаніцца.

**– Прапанову Ніне Аляксандраўне як рабілі?**

– Ды якую там прапанову? Якія там прызнанні ў каханні! – адмахваецца Міхаіл Уладзіміравіч, – паехалі і распісаліся. У будны дзень нават.

– Але ж і вяселле было, – удакладняе Ніна Аляксандраўна.

– Яе бацькі да мяне прычапіліся: трэба вяселле! Я тады яшчэ сказаў: “Якое вяселле, будзеце ўпірацца, развядуся!”

Але ўсё ж на вяселле Міхаіла Уладзіміравіча ўгаварылі.

Праз год у маладых, а на той час Ніне было 22 гады, а Міхаілу – 23, нарадзілася дачка **Наташа**, а яшчэ праз шэсць гадоў – сын **Віталь**.

Цяпер у шчаслівых бабулі з дзядулем ужо тры ўнукі і нават дзве праўнучкі.

Пытацца пра тое, як удалося пражыць разам 50 гадоў, справа няўдзячная. Вядома, за гэтыя гады было шмат рознага.

Міхаіл Уладзіміравіч працаваў на фабрыцы музычных інструментаў наладчыкам.

– Пасля на ЗМК перайшоў, думаў там маліна будзе, – кажа Міхаіл Уладзіміравіч, – а на пенсію ўжо з чыгункі пайшоў.

А Ніна Аляксандраўна ўсё жыццё адпрацавала поварам у Лебедзеўскай бальніцы.

– Я вельмі любіла да бабулі на працу прыходзіць, – далучаецца да размовы ўнучка Кацярына. – У адну палату зойдзеш, там пачастуюць, у другой таксама нешта смачненькае дадуць. А дзядуля быў паляўнічым.

Паляваў Міхаіл Уладзіміравіч у Верадове.

– О, якія там пушчы былі. Прыносіў і лісіц, і зайцоў, і качак.

– Сабак дзядуля многа трымаў, – успамінае Кацярына. – І ў чатыры раніцы перад паляваннем заўсёды мяне будзіў, каб скласці яму кампанію папіць чаю.

Сёння “маладыя”, вядома, на пенсіі. Раней гаспадарку трымалі, цяпер ад вялікай гаспадаркі засталіся тры трусікі і кот.

Параўноўваючы час, кажуць, што раней лепей было.

– Дык мы калі ў пачатку 70-х пераехалі ў Лебедзева, тут 500 двароў было. І лазня.

> Скардзяцца Ніна Аляксандраўна і Міхаіл Уладзіміравіч, што лазню ў Лебедзеве зачынілі.

– Раней як было, сюды прыходзілі мыцца і старшыня калгаса, і ўсё начальства, і жыхары Лебедзева, – кажа Міхаіл Уладзіміравіч.

– А чарга якая была, трэба было больш за гадзіну адседзець, каб трапіць памыцца, – дадае Ніна Аляксандраўна.

А цяпер лазні не стала. Нязручна сталым людзям ездзіць у горад да дзяцей і ўнукаў, каб памыцца, а што зробіш. Іншага выйсця няма.

Пытаюся ў Міхаіла Уладзіміравіча, напэўна, жонка-паварыха ўсё жыццё карміла смачнымі стравамі.

**– Якая ў вас любімая?**

– Пад шклянку ўсё смачна.

А калі сур’ёзна, то на сваё застолле да 50-годдзя сумеснага жыцця Ніна Аляксандраўна нагатуе шмат смачных страў, асабліва так любімы ўнукамі пячоначны торт.

Шафу, якая цяпер дзеліць вялікі пакой напалову, ссунуць да сцяны, каб вызваліць месца для сталоў і танцаў.

А танцы і песні будуць. Бо гэта таксама сямейная традыцыя – заспяваць усім разам любімую дзеяву песню: “ Расцвела под окошком белоснежная вишня”.

**Наталля ТУР.**




## Бывай, зала, на два тыдні

**"РГ" сумесна з фітнес-клубам "Тытан" запусціла праект "Зорка з трэнажоркі". Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**

Тэкст гэтага выпуску сваёй "зоркі" я пішу, седзячы ў цягніку Мінск – Львоў.

На стале паўкілаграма мандарынаў і батончык мюслі на выпадак, калі раптам надта захочацца чаю з чымсьці.

Пакуль буду далёка ад "Тытана", запыталася ў трэнера **Віталя Салаўёва**, а ён быў на сувязі, як трымаць сябе ў форме на адлегласці і без магчымасці наведваць залу. Пры ўмовах, што нават красовак з сабой няма.

І вось што адказаў Віталь:

– Давайце зробім цыклічную трэніроўку. Гэта комплекс з некалькіх практыкаванняў, якія робяцца па чарзе без перапынку.

1. Пачнём з прэса. Робім скручванні лежачы – 20 паўтораў.

2. Затым прысяданні з шырокай пастаноўкай ног, таксама 20 паўтораў.

3. Адцісканні, калі складана ад падлогі, то можна зрабіць ад крэсла або ложка (нават ад сцяны). І іх мы робім 20 разоў.

4. Выпады на месцы, па 15 разоў на кожную нагу.

5. Пасля гэтага робім бэрпі 10 разоў. Бэрпі – гэта такі комплекс, які складаецца з хуткага выканання некалькіх практыкаванняў:

а). Трэба прысесці, пакуль не дастанеце зямлі рукамі. Перанесці ўсю вагу на рукі і прыняць скачком гарызантальнае становішча.

б). Трымаем рукі паралельна, фіксуем локці і апускаемся яшчэ ніжэй.

в). Трохі прыпадымаемся і вяртаем ногі скачком у ранейшае становішча. Падымаемся.

г). Робім скачок уверх.

– У прынцыпе можна глянуць малюнак у інтэрнэце, як выконваецца бэрпі, адразу стане ўсё зразумела, – параіў Віталь.

Працягваем комплекс практыкаванняў.

6. Зробім яшчэ адцісканні ад крэсла 15 разоў.

Важна рабіць усё без перапынку. Затым адпачываем пяць хвілін і зноў усё паўтараем. І так тры кругі.

Самае важнае і прыемнае для мяне, што выконваць гэты комплекс трэба праз дзень. Трэба даваць арганізму і адпачыць.

**Наталля ТУР.**




Фота vdv-up.ru



# Хакей: недалёка ад тройкі прызёраў

**МАЛАДЗЕЧНА**

**На мінулым тыдні пачалася другая стадыя чэмпіянату краіны.**

Удзельнікі падзяліліся на "верхнюю шасцёрку" і "ніжнюю шасцёрку". Дынамаўцы ўпэўнена ўвайшлі ў мацнейшую групу і па набраных ачках зусім мала адстаюць ад прызавых месцаў.

Там, наверсе табліцы, цяпер размясціліся калектывы, якія ў гэтым сезоне праявілі сябе не толькі ў матчах чэмпіянату. Гродзенцы, напрыклад, паспяхова прайшлі сетку айчыннага кубкавага розыгрышу і сталі ўладальнікамі ганаровага трафея. Мінчане выступалі ў Лізе чэмпіёнаў, выйшлі з групавога этапу ў плэй-оф і спыніліся на стадыі 1/16-й фіналу, саступіўшы вельмі моцнаму шведскаму клубу. Салігорцы ездзілі на менш прадстаўнічы Кантынентальны кубак, але з групы не выбраліся.

На сённяшні дзень непасрэдным сапернікам нашага "Дынама" ў барацьбе за чацверты-пяты радкі з'яўляецца "Гомель". Нядаўна прымалі яго на сваёй пляцоўцы і ўпэўнена перамаглі з лікам 4:1. Будуць імкнуцца выбрацца з апошняга месца жлобінцы. Праўда, у іх ёсць фінансавыя праблемы, якія, канешне, могуць перашкодзіць гэтай цікавай камандзе.



Фота hcdinamo.by.

**"Дынама-Маладзечна" прымае на сваёй пляцоўцы салігорскі"Шахцёр". Гаспадары (у цёмнай форме) небяспечна атакуюць.**

Фармклубаўская сувязь са сталічным "Дынама" з Кантынентальнай хакейнай лігі не перарываецца ні на дзень. У адказных і прадстаўнічых міжнародных матчах ужо паспелі прыняць удзел маладзечанскія хакеісты варатар **Міхаіл Карнавухаў**, абаронцы **Павел Казакевіч**, **Мікіта Міцкевіч**, **Мікіта Усціненка**, **Дзмітры Знахаранка**. Лідар нашага складу ў мінулым сезоне нападаючы **Дзмітры Амбражэйчык** стаў у мінчан гульцом адной з асноўных троек форвардаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Пасля матчаў, што адбыліся на выхадных, турнірная табліца ў "верхняй шасцёрцы" выглядае наступным чынам.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Нёман-Гродна | 24 | 133-41 | 60 |
| 2. | Юнацтва-Мінск | 23 | 136-41 | 59 |
| 3. | Шахцёр-Салігорск | 23 | 110-42 | 54 |
| 4. | Дынама-Маладзечна | 24 | 76-47 | 51 |
| 5. | Гомель | 24 | 94-47 | 49 |
| 6. | Металург-Жлобін | 24 | 71-67 | 36 |

**Заўвага. Пасля назваў камандаў указаныя колькасць праведзеных матчаў, закінутыя і прапушчаныя шайбы, набраныя ачкі.**

**Каляндар дамашніх матчаў на другой стадыі чэмпіянату**

| Дата | СаПернік |
|---|---|
| 10 снежня (субота) | Гомель |
| 22 снежня (чацвер) | Юнацтва-Мінск |
| 10 студзеня (аўторак) | Металург-Жлобін |
| 15 студзеня (нядзеля) | Нёман-Гродна |
| 21 студзеня (субота) | Гомель |
| 26 студзеня (чацвер) | Шахцёр-Салігорск |
| 2 лютага (чацвер) | Юнацтва-Мінск |
| 16 лютага (чацвер) | Нёман-Гродна |
| 19 лютага (нядзеля) | Металург-Жлобін |

# Суд абавязаў клуб "Іслач" выплаціць футбалісту 53 мільёны рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Суд Мінскага раёна абавязаў футбольны клуб "Іслач" выплаціць былому футбалісту каманды **Аляксандру Цішкевічу** заробак за паўтара месяца.

Нагадаем, Аляксандр Цішкевіч, які абвінавачваецца ў датычнасці да арганізацыі дагаворнага матча "Іслач"–"Дынама-Брэст", падаў у суд на свой былы клуб з-за таго, што яму павінны зарплату за паўтара месяца.

Прычым першапачаткова гаворка ішла аб выплаце Аляксандру Цішкевічу 30 мільёнаў недамінаваных рублёў, клуб жа абавязалі выплаціць футбалісту 53 мільёны.

– Цішкевіч патрабаваў вярнуць яму нявыплачаную заработную плату за май-верасень, – растлумачыў дырэктар "Іслачы" **Сяргей Мельнікаў**. – Аляксандр паказаў, што ў маі яму недаплацілі 20% ад заробку. Чэрвеньскую ён атрымліваў у поўным аб'ёме, але потым мы ўтрымалі адзін яго месячны заробак з-за ўсіх вядомых падзей. Гэты ўказ клуба прызналі несапраўдным. Ад верасня Цішкевіч быў адхілены ад працы і пераведзены на мінімальныя выплаты ад клуба.

– Вы збіраецеся падаваць сустрэчны іск да Цішкевіча?

– Вядома, але па законе мы можам падаць сустрэчны іск толькі тады, калі парушэнне Цішкевіча і астатніх гульцоў будзе прызнанае судом. Пакуль пасяджэнне суда над удзельнікамі справы аб дагаворным матчы не адбылося. Яно плануецца на снежань і студзень, – сказаў Мельнікаў.

Пра тое, што футбаліст адхілены ад трэніровак з камандай, выпраўшы патрабаваць выплаты грошай, у эмацыйнай форме ў пачатку кастрычніка распавёў галоўны трэнер "Іслачы" **Віталь Жукоўскі.**

– Вы зразумейце, усё забываецца. Але калі людзі ў такой сітуацыі падалі ў суд. Уяўляеце: Цішкевіч падаў у суд на каманду за тое, што "Іслач" не плаціць зарплату. Разумееце, як быццам мне звязалі рукі і б'юць. А так хочацца адказаць – не можаш. Вядома, будзе разбіральніцтва. Ужо проста вось тут сядзіць (праводзіць рукой па горле).

Нагадаем, прадстаўнік трэнерскага штаба **Уладзімір Макоўскі** і шэраг гульцоў клуба "Іслач" падазраюцца ў атрыманні незаконнага ўзнагароджання ў суме 10 тысяч долараў ЗША за праўзяненне "дагаворнага" матча з камандай "Дынама-Брэст", які адбыўся 30 красавіка на гарадскім стадыёне.



Фота tut.by.

**Аляксандр Цішкевіч.**

У пачатку кастрычніка з-за скандалу з дагаворнымі матчамі ад тытульнага партнёрства з "Іслаччу" адмовілася кампанія KFC.

25 лістапада Беларуская федэрацыя футбола агучыла пакаранне для "Іслачы" за ўдзел гульцоў клуба ў дагаворных матчах – наступны сезон каманда пачне з пасіваў у сем ачкоў. У сваю чаргу, "Іслач" падала апеляцыю на рашэнне федэрацыі.

**Паводле tut.by.**

● СМАЧНА ЕСЦІ

## Усмешка, якую можна з'есці




Прапаную зрабіць пірог з інтрыгуючай назвай "Усмешка негра". Адказ відавочны, калі страва будзе прыгатаваная. А каб вы не пакутавалі над разгадкай пытання, раскрыем сакрэт. Справа ў тым, што цеста атрымліваецца шакаладным, а начынка ўсярэдзіне белая.

Для цеста спатрэбіцца: *200 грамаў масла, 3 шклянкі мукі, 100 грамаў цукру, 2 сталовыя лыжкі какавы, 1 чайная лыжка соды, гашанай воцатам, альбо 2 чайныя лыжкі разрыхляльніку.*

Для начынкі: *500 грамаў тварагу, 3 яйкі, 150 грамаў цукру, 2 чайныя лыжкі крухмалу.*

Спачатку растапіце масла, дадайце ў яго цукар, какаву, муку, соду, гашаную воцатам. Замясіце цеста, раздзяліце яго на дзве часткі: адну выкладзіце ў форму, другая спатрэбіцца, каб пакласці на начынку.

На цеста заліце начынку з тварагу. Цяпер прыступім да другой часткі цеста. Натрыце яго на буйной тарцы. Калі прыліпае да яе, дадайце мукі.

Я часам цеста адрываю маленечкімі кавалачкамі і кладу на начынку, атрымліваецца не горш, аднак у разы хутчэй. Смачна есці.

**Галіна АДАМОВІЧ.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СНЕЖАНЬ**

**Увага: дзеці і бацькі!**

**У пераднавагодня і навагоднія святы тэатр запрашае гасцей!**

**Шумныя і вясёлыя ранішнікі з навагоднімі сюрпрызамі, конкурсамі, прызамі і добрым настроем на ўвесь надыходзячы год.**

**ЗАПРАШАЕМ НА НАВАГОДНЮЮ КАМЕДЫЮ-КАЗКУ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ "СВЯТА ДЛЯ САНЬКІ!"**

Героі казкі – ваўкі – вольны і ганарлівы народ, які жыве па сваіх правілах, дзе Новы год не святкуюць. Але малое ваўчанё супраць...

ад 20 да 30 снежня ў 11:00 і 13:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**"Афінскія вечары"** (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*

17 снежня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:
**75-29-16** – намеснік дырэктара,
**76-17-32** – галоўны адміністратар,
**75-24-17** – каса.

**Ад 13 снежня кантактныя тэлефоны памяняюцца:**
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.

E-mail: modt@tut.by Сайт: theatre-modt.by УНП 600066659

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 3 | | | 5 | | |
| | | | 5 | | | 9 | 3 | 4 |
| | | | | 1 | 7 | | 2 | |
| | 5 | | | | | 2 | | 9 |
| | | 2 | 1 | | 8 | 7 | | |
| 7 | | 6 | | | | | 8 | |
| | 6 | | 4 | 2 | | | | |
| 1 | 2 | 9 | | | 6 | | | |
| | | 5 | | | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Крыжаванка



## ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Часам яго няправільна называюць чаротам.
4. Вельмі высокі будынак па версіі Рыгора Барадуліна.
5. Сушаная дыня.
7. Прапушчаныя слова ў вершы Паўлюка Труса "Зоры гарач па-над возерам вольным, ... цалуе спакойную сінь..."
8. Законная ваенная здабыча, у марской этымалогіі – карабель і груз, які забралі ў праціўніка.
11. Яе асноўныя кампаненты – цэлюлоза і драўняная маса.
12. Вузкая пратаптаная дарожка.
14. У кантынентальнай Еўропе ёсць толькі адзін, які дзейнічае.
16. Чарамша, ці ... мядзведжая.
17. Старажытнагрэчаскае паходжанне слова "галактыка".
18. Металічны посуд для гарачага вугалля.
19. Па адной з версій, гэты міфічны вобраз узнік у народаў, якія не ведалі коннай язды і ўпершыню сутыкнуліся з вершнікамі.
20. Матэрыял для пісьма, выраблены з аднайменнай водна-балотнай расліны.
21. Лёгкі і бясколерны газ, самы распаўсюджаны элемент у Сусвеце.
24. Па біблейскай прытчы, гаспадар падарыў яго тром рабам. Адзін яго закапаў, другі размяняў, а трэці памножыў.
25. Пра яго сёлета малады пісьменнік з Маладзечна напісаў першы беларускі зомбі-хорар.
29. Паслён клубняносны. Паходзіць ад лацінскага слова, якое значыць "цыбуліна".

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Пры дапамозе дыму для сваіх гадаванцаў ён стварае імітацыю пажару.
2. Імя прэзідэнта Ізраіля, які нарадзіўся на Валожыншчыне.
6. Ёсць у клетцы і ў Зямлі.
9. Кантынент, які існаваў на паўднёвым паўшар'і, складаўся з сучасных Аўстраліі, Антарктыды, Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі і Індастана.
10. Прыстасаванне для праходу праз сцяну.
13. Пасварыў Геру, Афіну і Афрадыту.
15. Перад імі ў Маладзечне з'явіліся ратонды ў парку.
16. Асноўны складнік дзіцячага падарунку пад ёлкай.
22. Яго герб – дуб і стронга.
23. На гітары бяруць шчыпком трох і больш струн.
26. Яна ёсць у Нарачы, Свіцязі, Мінска, Купалля.
27. Падарожнікі з Беларусі ўзялі гэты прадмет, каб пранесці праз 14 краін і ў 2011 годзе данесці да акіяна.
28. Пальчаткі зваршчыка і хакеіста.
30. У ароматэрапіі яго выкарыстоўваюць, каб зняць стрэс, супакоіць галаўны боль, атрымаць раўнавагу.

### Адказы на крыжаванку з №49.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Ажына 3. Маладзік 7. Вол 10. Гіпербала 11. Купала 12. Грамніцы 13. Газ 14. Рэзюмэ 18. Груша 22. Вярстак 23. Бізун 24. Мадам 25. Іслач 26. Талер 27. Воля 28. Жырандоля 29. Катарсіс 33. Васілёк

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Дынабург 4. Ваза 5. Лоск 6. Золак 8. Віза 9. Кніга 12. Гамбіт 13. Гегемон 15. Канюшына 16. Нарач 17. Русалка 19. Маўчанне 20. Арэлі 21. Кубіт 26. Талерка 27. Вянок 28. Жняя 30. Нерыс 31. Кацяня 32. Бокс



## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"



РЭПЕРТУАР НА СНЕЖАНЬ

**"Тры парсючкі"** (музычная казка, бел.), *І.Сідарук*
11 снежня – у 12:00

**Займальнае навагодняе падарожжа па казках "Таямніца снежнай каралевы"**
**18-30 снежня**

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.** УНП 600136804

● ГАРАСКОП
9-15 СНЕЖНЯ



**Авен.** Час спрыяльны для ўсіх тых, хто прывык дабівацца выніку, спадзеючыся толькі на сябе і сваю рашучасць. Смела рухайцеся наперад, ніякія перашкоды не павінны вас спыніць.



**Цялец.** Перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці, яшчэ нязведаныя шляхі і ўсё, што вам застаецца рабіць, гэта адправіцца ў падарожжа, невядомае, але захапляльнае. Спрыяльны час для фінансавых пачынанняў, адкрыцця сваёй справы ці выгаднага ўкладання.



**Блізняты.** Асаблівай увагі запатрабуюць фінансавыя пытанні – яшчэ раз усё праліччыце.



**Рак.** Павышаецца ваша працаздольнасць, а таксама цяга да матэрыяльных каштоўнасцяў. Падзеі ўказваюць на поспех у справах, але толькі тым, хто гатовы ісці да канца, нягледзячы ні на што, бо ў працэсе дасягнення мэты можна штосьці страціць, хоць і з другой сферы вашага жыцця.



**Леў.** На тое, што адбываецца, варта глядзець пафіласофску. Усё гэта не больш чым несусветная мітусня, але, тым не менш, вы можаце ўзяць нешта карыснае для сябе, проста назіраючы за развіццём падзей.



**Дзева.** Пастарайцеся размеркаваць свой час так, каб былі сілы і на дом, і на сям'ю, і на сустрэчы з сябрамі.



**Шалі.** Вам неабходна адмовіцца ад празмернай канцэнтрацыі на ўласных каштоўнасцях, справядлівасці, жаданні кіраваць усім і ўсімі.



**Скарпіён.** Перад вамі адкрываюцца новыя гарызонты, нават калі здаецца, што для гэтага няма ніводнага шанца.



**Стралец.** Вельмі станоўчы перыяд, але не таму, што вам будзе спадарожнічаць поспех ці пачнуць развівацца справы, якія раней прастойвалі. Вы падміце сваю самаацэнку, зразумееце прапісныя ісціны, якія так не проста нам даюцца.



**Казярог.** Калі ў сям'і ваш заробак – не асноўная крыніца даходу, то вам няма чаго перажываць. Ды і ўсё астатняе не засмучайцеся, бо крызіс – гэта ж не канец свету.



**Вадалей.** Вас будуць наведваць ганебныя эмоцыі і негатыўныя думкі. Але ў гэтым ёсць добры эфект – павышаецца ваша фізічная вынослівасць, палкасць, сэксуальнасць.



**Рыбы.** Для вас гэта час фінансавай незалежнасці. Нягледзячы на крызіс, павысіцца даходы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

### 10 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +6 | | +5 / 0 | | -2 / -2 | | -2 / -3 | |
| | 732 | → 5 | 736 | ← 4 | 736 | ← 3 | 740 | ← 5 |
| Вільня | +4 / +7 | | +3 / +2 | | -3 / -1 | | -3 / 0 | |
| | 741 | → 6 | 745 | ← 3 | 745 | ← 4 | 749 | ← 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.23
Захад 16.48
Даўжыня дня 7.25

Усход 15.09
Захад 3.56
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -16,8 °C у 1989 годзе
Максімальная тэмпература +6,8 °C у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 1979 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **Пано, карціны, мяккія цацкі, лялькі, штучныя кветкі... Не, гэта не прадстаўленне выставы кагорты майстроў. Усе гэтыя рэчы стварае адзін чалавек — маладая мастачка з Маладзечна Вікторыя Капуцкая.**



## ● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



Фота забяспечана Авелінай МАЦЮШОНАК.

**Авеліна Мацюшонак: "Я не лічу хвіліны, я не лічу гады. Проста мы разам". На фотаздымку Авеліна з сынамі Цімурам і Захарам.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

1939 год. Заходняя Беларусь. Журналіст пытае ў мясцовага жыхара:
– А што пан паліць?
– Прыму палю.
– А калі яна знікне, што тады?
– Махорку паліць буду.
– А калі нават махорка знікне, тады што?
– Ну тады сельсавет паліць буду.
– Дык пан мае рацыю.
– Не, рацыю мае сусед, а ў пана кулямёт е.

***

Аб'ява ў ВНУ:
"Шаноўныя выкладчыкі-мужчыны! Не курыце на паверху, дзе большасць студэнтаў – дзяўчаты, будучыя мамы". Унізе прыпіска ад рукі: "Магчыма, вашых дзяцей".

***

Бацька-паляўнічы забіў мядзведзя. Мяса ён пакінуў сабе. Шкуру аддаў жонцы. А цыркавы ровар падарыў сыну.

***

– О! У нас сёння рамантычная вячэра: свечкі, масла...
– Пятровіч! Закрый капот!

***

Жанчыну зразумець лёгка. Яна як разгорнутая кніга. Кніга па квантавай фізіцы на кітайскай мове. Але ж разгорнутая!

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што добрага ў пенсіі?



**Юлія Кулік, вучаніца:**
– Дзіўна ў маім узросце чуць такое пытанне. Напэўна, на пенсіі добра, калі пенсію вялікую плацяць і ёсць магчымасць нарэшце адпачыць пасля працы.



**Юры Войніч, дальнабойшчык:**
– Калі ты на пенсіі здаровы і не залежыш ні ад каго, гэта добра. Жыві сабе, як жадаеш, не думай пра тое, што ад панядзелка і да пятніцы трэба на работу хадзіць.



**Дар'я Валента, навучэнка:**
– Цяжка знайсці плюсы ў пенсіі. Больш я бачу мінусаў. Напэўна, увесь час сядзець дома і не хадзіць на работу – гэта сумна, асабліва калі чалавек працавіты.



**Ніна Рацце, пенсіянерка:**
– Не бачу нічога добрага. Мне падабалася хадзіць на работу. Тады неяк весялей і адчуваеш сябе патрэбным.



**Андрэй Мартынчык, электраманцёр:**
– О! Я хацеў бы на пенсію: жыві сабе ў сваё задавальненне. Падарожнічаць можна. Аднак бабулі маёй на пенсіі не падабаецца.



**Алена Кароль, апаратчыца:**
– Вялікі плюс на пенсіі – гэта вольны час, які можна патраціць, каб гадаваць унукаў. Можна шмат падарожнічаць. І не абавязкова ехаць у дарагія падарожжы. Гуляць па вуліцы, любавацца прыродай – гэта таксама вельмі добра. Мне такое баўленне часу падабаецца. Таму лічу, што на пенсіі мне будзе лёгка.



**Таццяна Іваненка, настаўніца:**
– Што добрага ў пенсіі? Магчымасць рэалізаваць свае мары. Гэта я і зраблю на пенсіі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№50 (1128) 9.12.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1196. Падпісана ў друк у 9.00 8.12.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.